*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№29 верасень 2013***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## 19-га верасня — Дзень Пагоні і Бел-чырвона-белага сцяга

### 22 гады таму, 19 верасня 1991 года, гістарычная сімволіка была прызнана дзяржаўнай.



*Такое рашэнне прыняў пасля краху СССР Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання — парламент, які быў абраны на часткова свабодных выбарах.*

*Нацыянальная сімволіка заставалася дзяржаўнай да Ганебнага рэферэндуму 1995 года, калі замест яе вярнулі каланіяльныя савецкія сімвалы.*

*Раней бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» былі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі — першага дзяржаўнага ўтварэння, што абвясціла сваю незалежнасць ад іншых краін і выкарыстоўвала азначэнне «беларускі».*

*Герб «Пагоня» — ваяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі — вядомы ў Беларусі з глыбокай старажытнасці.*

*Бел-чырвона-белы сцяг у сённяшнім выглядзе, у адрозненне ад «Пагоні», мае канкрэтнага аўтара. Сцяг стварыў у 1917 Клаўдзій Дуж-Душэўскі.*

*Створаны Дуж-Душэўскім сцяг быў упершыню ўзняты ўвесну 1917 на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу (Дуж-Душэўскі быў супрацоўнікам гэтага Таварыства).*

*А 12 сакавіка ў Мінску ўпершыню адбылося масавае свята — нацыянальны Дзень беларускага значка. Бел-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах.*

*Бел-чырвона-белую стужку ў 1917-м сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб пазнаваць сваіх.*

*У снежні 1917 у Мінску падчас Усебеларускага з'езда бел-чырвона-белы сцяг ужо адзінадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. ¨н стаў дзяржаўным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі.*

## Трэці Дзень народзінаў за кратамі



Зняволенаму старшыні праваабарончага цэнтра “Вясна”, віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алесю Бяляцкаму 25 верасня споўніўся 51 год. Ад 4 жніўня 2011 года праваабаронца знаходзіцца за кратамі, спачатку ў следчым ізалятары ў Менску, затым у Бабруйскай папраўчай калоніі №2.

Трэці год запар Алесь Бяляцкі не можа годна адзначыць свой Дзень народзінаў у коле родных, сяброў і паплечнікаў.

Гэта ўжо не свята, як кажа жонка Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук:

- На жаль, за гэты час прызвычаіўся не думаць і не спадзявацца, а проста пражыць гэты дзень, не закранаючы ніякіх пытанняў. Іншая справа, што зараз у яго дзень нараджэння, а пагаварыць з ім не атрымаецца. Віншаванні я яму адправіла. Лісты, віншаванні ідуць да яго і ад іншых. Гэта ўжо трэці год...Трэці Дзень нараджэння за кратамі.

Там, за турэмнымі мурамі, гэтыя віншаванні нагадаюць праваабаронцу, які 17 год бараніў правы простых людзей, што ён не застаўся адзін, што пра яго памятаюць і чакаюць хутчэйшага вызвалення.

## Чакаем на Волі

Зняволенаму старшыні Праваабарончага цэнтра “Вясна”, віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алесю Бяляцкаму 25 верасня споўніўся 51 год.

Ад 4 жніўня 2011 года праваабаронца знаходзіцца за кратамі, спачатку ў следчым ізалятары ў Менску, затым у Жодзінскай турме №8 і у Бабруйскай папраўчай калоніі №2.

Трэці год запар Алесь Бяляцкі не можа годна адзначыць свой дзень народзінаў у коле родных, сяброў і паплечнікаў.

Але яго сябры чакаюць яго на Волі, вераць у яго моц і жадаюць яму Веры, Надзеі і Мужнасці. Падтрымка кожнага беларуса дае моцы палітвязню. Падтрымка кожнага чалавека ў свеце усяляе ў зняволенага сілы. Не застанёмся ў баку. Падрымайма палітвязняў!

Слава патрыётам!!! Жыве Беларусь!!!




## Жонка Алеся Бяляцкага: Званок таксама як момант сустрэчы



Праваабаронца Алесь Бяляцкі, якога трымаюць ў Бабруйскай калёніі, працягвае ліставаньне з домам і сябрамі, а часам мае магчымасьць патэлефанаваць, паведаміла жонка палітвязьня Натальля Пінчук.

«Раз на тыдзень, бывае раз на два тыдні ад яго прыходзяць лісты. Калі нейкі час я не атрымліваю, то пытаюся ў сяброў ды знаёмых і даведваюся, што ім таксама піша. Таму бачу, што ліставаньне ідзе, зь ім нібыта ўсё нармальна, больш-меньш. Часам бывае і звоніць. Настрой ў званках заўсёды добры, бадзёры. Вось як і ў апошнім спатканьні быў бадзёры, гэтак і падчас тэлефонных размоў. Званок — гэта заўсёды як момант сустрэчы і голас таму радасны. А так у яго тое ж самае — праца, праца. Рэжым ў яго вызначаны на ўвесь тэрмін і не мяняецца, хіба толькі з пагаршэньнем і вяртаньнем да вызначанага парадку».

Паводле Натальлі Пінчук, яе муж можа спагнаць ў турэмнай краме толькі 100 тысяч рублёў штомесяц. «Гэта вельмі малыя грошы і безумоўна „атаваркі“ яму не хапае», — мяркуе жонка Алеся Бяляцкага.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі за ўтойваньне прыбыткаў з-за мяжы асуджаны на 4,5 года зьняволеньня. На судзе Бяляцкі заяўляў, што ўсе грошы, якія ён прывозіў з-за мяжы, ішлі на дапамогу ахвярам рэжыму. Апазыцыя і праваабаронцы ў Беларусі і сьвеце таксама лічаць, што Алеся Бяляцкага пакаралі за праваабарончую дзейнасьць.

# Фіялетавыя сланы

***Успомніўся мне стары вайсковы анекдот, які расказвалі ў час нашай баявой маладосці на ўкраінскай мове. Шараговы салдат пытае ў прапаршчыка: "Таварыш прапаршчык, скажыце, калі ласка, ці лятаюць кракадзілы?". – "Ты што, звар'яваў – канешне не!" – адказвае той. "А вось таварыш маёр нам на палітзанятках казаў, што лятаюць". – "Ну, разумееш, часам яны сапраўды лятаюць, толькі так нізенька, нізенька…". Калі каму нечага вельмі хочацца, то можна паверыць і ў лятаючых кракадзілаў і ў фіялетавых сланоў і шмат яшчэ ў што.***

Але многія рэчы ў нашым свеце вельмі цяжка вытлумачыць. Асабліва калі справа датычыць вялікай палітыкі. Вось, прыкладам, цэлая суверэнная краіна – Арменія – заявіла вуснамі свайго прэзідэнта, што хоча ўвайсці ў адзіны мытны саюз з тымі дзяржавамі, што ўжо зліліся ў экстазе глыбокай інтэграцыі. Але ж чакайце, паглядзім на мапу свету – Арменія не мае нават супольнай мяжы ні з Казахстанам, ні з Расеяй, ні тым больш з Беларуссю… Якая ж тут можа быць адзіная мытная прастора?! Нібыта гэтая Арменія толькі што збіралася ў Еўразвяз, але нешта нашчадкам старажытнай Урарту радыкальна перамкнула ў галаве. Хто растлумачыць?...

А кіраўнік Беларусі ў сваёй прамове прапанаваў браць з тых насельнікаў нашай краіны, хто рэгулярна ездзіць па закупы ў Польшчу ці Літву, па сто даляраў. Маўляў, возяць усялякае барахло з-за мяжы, у той час, як мы сваім такім барахлом завалены. Тут то я з ім згодзен – у тым сэнсе, што няма чаго ім так часта ездзіць, даўно пара вярнуць гэтых людзей, якія суткамі стаяць на памежных пераходах, у сем'і і ў беларускую рэчаіснасць. Але пытанняў у мяне ўсё роўна шмат застаецца – чаму кіраўнік дзяржавы называе тавары айчыннай вытворчасці "барахлом"? Чаму гэтую пошліну трэба будзе плаціць у памеры 100 даляраў, а не 1-го мільёну беларускіх



рублёў? Увогуле, чаму розныя страхоўкі трэба плаціць беларускаму грамадзяніну ў еўра? Можа для таго, каб скупіць усе гэтыя ненавісныя еўра і абваліць эканоміку захаду?! А яшчэ пытанне – калі гэтыя небаракі – трансгранічныя "чаўнакі" перастануць валэндацца туды-сюды праз мяжу – куды іх падзець – усё ж дзесяткі тысяч чалавек? Можа іх у войска адправіць усіх. Якраз жа зараз у Беларусі, не іначай да ўгодкаў бітвы пад Воршай, супольныя вучэнні "Захад-2013" з войскам Расейскай федэрацыі. Назва вучэнняў таксама да канца незразумелая – ці гэта мы "Захад", ці гэта мы з братнім рускім народам супраць Захаду? Хто растлумачыць?

А ў школах пачаўся новы навучальны год. У беларускіх школах рускі навучальны год. За летняе міжсезонне ўсе гарадскія школы зазналі істотнае знешняе абнаўленне – усе іх тэрыторыі абгарадзілі высокім металёвым плотам. Зроблена гэта нібыта з імкнення да бяспекі дзяцей. Плот спярша планавалі паставіць з тых бакоў, дзе на школьную тэрыторыю заязджаюць і паркуюцца аўтамабілі. Але гарадзіць – дык гарадзіць, каб і варона не праляцела. Як кажуць у народзе, дай дурню брытву, то ён і зарэжацца. Цяпер тыя ж школьнікі канікуламі і ў вячэрні час, калі гэтыя брамкі зачынены, лезуць і скачуць праз плот, рызыкуючы скруціць шыю ці зламаць ногі. А старэнькія бабулькі, якія змушаныя дабірацца да прыпынкаў гарадскага грамадскага транспарту кругамі, абыходзячы гэтыя недаступныя школы, як нейкія сакрэтныя аб'екты, пасылаюць у паветра ласкавыя словы.

І вось я падумаў – як бы добра займець "Энциклопедию идеологического работника" – угледзеў я днямі гэтую тоўстую кніжку на экране аднаго з тэлеканалаў Беларусі. А вось у кнігарнях яе нешта нябачна. Вось там бы, у гэтым грунтоўным томе, напэўна адразу знайшоў бы ўсе адказы на пытанні, якія цяжка зразумець і асэнсаваць. І напэўна тады б паверыў – і ў карысць адзінай мытнай прасторы з Расеяй, і ў радасць бязвізавага рэжыму з Узбекістанам. І ў тое, што сланы ад прыроды зялёнага і фіялетавага колеру, а кракадзілы лятаюць, хай сабе і нізенька.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Аб неабходных дзеяннях міжнароднай супольнасці ў сувязі са справай вязня сумлення Алеся Бяляцкага

***Заява Міжнароднай назіральнай місіі Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі***

Дзейнічаючы па даручэнні Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі (КМК), які аб'ядноўвае прадстаўнікоў нацыянальных і міжнародных няўрадавых арганізацый прасторы АБСЕ,

ажыццяўляючы маніторынг агульнай сітуацыі з захаваннем фундаментальных правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь,

падкрэсліваючы , што правы чалавека з'яўляюцца прадметам прамой і законнай заклапочанасці міжнароднай грамадзянскай супольнасці, а таксама дзяржаў - удзельніц АБСЕ, якія ўзялі на сябе абавязацельствы сумеснага кантролю за выкананнем стандартаў правоў чалавека і вяршэнства права,

улічваючы асаблівы міжнародна -прававы статус праваабаронцаў,

лічачы недапушчальным выкарыстанне судовай сістэмы і сістэмы выканання пакаранняў як механізмаў палітычна матываваных рэпрэсій

Міжнародная назіральная місія і яе Прадстаўнік па становішчы праваабаронцаў

- лічаць недапушчальным той факт, што вядомы беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі, прызнаны вязнем сумлення, ужо больш за два гады знаходзіцца ў зняволенні і што працягваюць паступаць паведамленні аб выкарыстанні правілаў ўнутранага распарадку папраўчай установы ў якасці механізму ціску, які прыводзіць да парушэння правоў як самога Бяляцкага, так і яго сваякоў;

- падкрэсліваюць , што за яго знаходжанне ў зняволенні нясуць адказнасць як улады Рэспублікі Беларусь, якія сістэматычна парушаюць свае міжнародныя абавязацельствы па стварэнню спрыяльных умоў для праваабарончай дзейнасці, так і ўсе дзяржавы - ўдзельніцы АБСЕ і дзяржавы, якія падтрымалі стварэнне мандата спецдакладчыка ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь;

- у сувязі з гэтым далучаюцца да заклікаў міжнароднай грамадскасці і беларускай грамадзянскай супольнасці аб неадкладным і безумоўным вызваленні Алеся Бяляцкага (агучаных, у тым ліку, 25 верасня 2013 год, у дзень яго нараджэння);

- падтрымліваюць яго вылучэнне на Нобелеўскую прэмію міру, а таксама сумеснае вылучэнне палітвязняў Беларусі на прэмію імя Андрэя Сахарава;

- лічаць неабходным сур'ёзны перагляд механізмаў міждзяржаўнага ўзаемадзеяння праваахоўных структур у частцы супрацоўніцтва з дзяржавамі , судовыя сістэмы якіх залежныя ад выканаўчай улады і не адказваюць стандартам бесстароннасці і прыхільнасці вяршэнства права;

- прапануюць накіраваць дадатковыя намаганні на развіццё незалежнага грамадскага кантролю за месцамі пазбаўлення волі , перш за ўсё ў тых дзяржавах - удзельніцах АБСЕ, у якіх утрымліваюцца вязні сумлення і палітвязні .

25 верасня 2013 г.

Кіраўнік Місіі Андрэй Юраў

Прадстаўнік Місіі па становішчы праваабаронцаў Дзмітрый Макараў

Для даведкі:

Камітэт міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі – гэта кааліцыя больш чым 40 няўрадавых арганізацый і груп з краін АБСЕ, створаная як адказ на пагаршаемую сітуацыю з правамі чалавека і становішчам праваабаронцаў пасля 19 снежня 2010 года. Асноўнымі мэтамі Міжнароднага Камітэта з'яўляюцца пастаянны маніторынг і міжнародны кантроль за сітуацыяй з захаваннем фундаментальных правоў чалавека і становішчам праваабаронцаў і праваабарончых арганізацый у Рэспубліцы Беларусь ; выпрацоўка рэкамендацый органам улады Беларусі і міжнародным міжурадавым арганізацыям па нармалізацыі сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь і прывядзенні яе ў адпаведнасць з міжнароднымі абавязацельствамі, узятымі на сябе урадам Рэспублікі Беларусь і ўнутранымі нормамі Рэспублікі Беларусь.

# Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі

Генеральная асамблея Арганізацыі Аб’яднаных нацый распаўсюдзіла даклад Спецыяльнага дакладчыка ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі.

Сапраўдны даклад быў прадстаўлены Спецдакладчыкам ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Міклашам Харашці Генеральнай Асамблеі не яе 68 сесіі ў адпаведнасці з рэзалюцыяй 20/13 Савета па правах чалавека.

У дакладзе Спецыяльны дакладчык надае асноўную ўвагу пытанню аб правах чалавека ў кантэксце выбарчых працэсаў у Беларусі. ¨н разглядае характэрныя віды парушэнняў правоў чалавека мэтанакіраванага і сістэмнага характару, у выніку чаго Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, у якой на працягу апошняга дзесяцігоддзя ў парламент не было абрана ні аднаго апазіцыянера.

Спецыяльны дакладчык прадстаўляе рэкамендацыі для паляпшэння становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі ў адпаведнасці з яе міжнароднымі абавязацельствамі.

# Беларусь – самая праблемная па свабодзе СМІ сярод краін Усходняга партнёрства

Гэта вынікае з пілотнага Індэкса свабоды медыя Усходняга партнёрства, вынікі якога былі абнародаваныя ў офісе ГА “БАЖ” 6 верасня, напярэдадні Міжнароднага дня салідарнасці журналістаў.

З вынікамі даследавання знаёмяць журналістаў старшыня ГА "БАЖ" Жанна Літвіна і намеснік старшыні Андрэй Бастунец.



Паводле абагульненых дадзеных Індэкса, найбольш спрыяльныя для СМІ ўмовы сёння існуюць у Грузіі. На другім месцы – Малдова, на трэцім – Арменія, на чацвертым – Украіна, на пятым – Азербайджан. Апошняе сярод шасці дзяржаў месца займае наша краіна.

Зводны Індэкс рыхтавала міжнародная грамадская арганізацыя “Internews-Украіна” пры падтрымцы Еўрасаюза ў межах праекта «Назіранне за свабодай слова ва Усходнім рэгіёне Еўрапейскай палітыкі суседства», які паўстаў з ініцыятывы Форума грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства. (Больш інфармацыі – тут.)

Індэкс складзены па выніках апытання экспертаў – па дзесяць у кожнай краіне, – якія па прапанаванай методыцы ацэньвалі стан свабоды СМІ і выстаўлялі краінам пэўныя балы.

Акрамя таго, эксперты распрацоўвалі рэкамендацыі для кожнай з краін.

ПаказацьЧЫТАЦЬ РЭКАМЕНДАЦЫІ

Індэкс плануецца выпускаць штоквартальна на працягу двух гадоў у кожнай краіне Усходняга партнёрства.

¨н мае чатыры блокі – «Палітыка», «Практыка», «Тэлерадыёвяшчанне» і «Інтэрнэт і новыя медыя».

Блок «Палітыка» вызначае ўзровень правоў і свабод, што прадастаўляюцца канстытуцыяй і законамі краіны СМІ і журналістам, іх адпаведнасць міжнародным нормам і стандартам, наяўнасць афіцыйных органаў цэнзуры і г.д.). Блок «Практыка» вызначае ролю дзяржавы ў забеспячэнні правоў і свабод СМІ і журналістаў, рэакцыю ўладаў на выпадкі іх незаконнага абмежавання. Гэты блок складаецца з 6 частак: фактычныя атакі, пагрозы, затрыманні; судовы пераслед; доступ да інфармацыі; цэнзура і самацэнзура; дзяржаўная манаполія; эканамічныя ўмовы. Блок «Тэлерадыёвяшчанне». Вызначае ўзровень свабоды тэлерадыёкампаній, доступ да эфіру і г.д. Блок «Інтэрнэт і новыя медыя» вызначае ўзровень свабоды інтэрнэту, магчымасці доступу да яго.

Гл: Інфаграфіка і Прэзентацыя ў Power Point

“Індэкс – гэта аснова для выпрацоўкі агульнай для краін Усходняга партнёрства палітыкі рэфармавання інфармацыйнай сферы. Безумоўна, “кожны няшчасны па-свойму”, і нават у лідараў гэтага Індэксу – Грузіі і Малдовы – ёсць свае праблемы. Яны балючыя, але ўсё ж лягчэйшыя за нашы”, – зазначыла Жанна Літвіна.

“Зразумела, ёсць шмат розных індэксаў, рэйтынгаў, якія складаюцца міжнароднымі структурамі. І ва ўсіх іх Беларусь стаіць на апошніх месцах, – кажа Андрэй Бастунец. – Але ўмовы ў розных краінах свету моцна адрозніваюцца, і чым большы індэкс, тым ён больш субектыўны. А тут мы параўноўваем сітуацыю ў краінах, дзе адносна нядаўна існавала аднолькавая заканадаўчая база, і таму параўноўваць можна даволі адэкватна. Да таго ж, адметнасць гэтага Індэкса – у тым, што яго складалі самі медыяэксперты ўнутры кожнай краіны. Гэта ўжо не ацэнка звонку, а своеасаблівая самаацэнка”.

Па словах юрыста, кожнаму з экспертаў была раздадзена анкета з 55 пытаннямі, разбітымі на 4 блокі. Па кожным з гэтых пытанняў эксперты маглі выставіць ацэнку ад нуля да трох ("0" – мінімальныя гарантыі дзейнасці журналістаў, "3" – максімальныя). На падставе сумы балаў ствараўся Індэкс.

“Для мяне было трохі дзіўна, што нават у блоку “Інтэрнэт і новыя медыя” мы апынуліся ў самым хвасце, бо мы ж увесь час кажам, што ў нас інтэрнэт-сфера найбольш вольная! – прызнаўся Андрэй Бастунец. – Але, калі паглядзець, на якія пытанні адказвалі эксперты, усё стане на свае месцы: у іх пыталіся пра заканадаўства ў сферы інтэрнэт, пра выпадкі прыцягнення інтэрнэт-актывістаў да адказнасці, пра дзяржаўную манаполію ў сферы аказання інтэрнэт-паслуг, пра блакаванне анлайн-СМІ і г.д.”

# На ўсе сто

***У той час, калі чужыя ўрады замежных краін спрачаюцца наконт зніжэння кошту шангенскай візы для беларусаў (бо лічаць, што ён для нас, бедненькіх, завялікі), родненькая беларуская ўлада таксама не спіць у шапку. І яна думае пра тых, хто перасякае мяжу ў пошуках лепшай долі і хлеба надзённага. А як жа ж. Пра народ наша ўлада думае заўсёды. Улада ж народная! О-то ж!***

Толькі бедненькімі яна сваіх грамадзянаў прынцыпова не прызнае. І ў той час, як чужыя еўрапейцы кошт у шэсцьдзесят еўра за візу на цэлы год лічаць задарагім, то наша родненькае кіраўніцтва мяркуе, што здзіраць з свайго грамадзяніна, што выбраўся ў Еўропу па закупкі, трэба ажно па сто даляраў за адну паездку. Ну а за дзве, адпаведна, два разы па сто. І так далей. Арыфметыка зразумелая нават дашкольнікам. Як і матывы.




А вось куды раней глядзелі чыноўнікі? Колькі год ужо беларусы штурмуюць замежныя крамы?! Колькі бабла можна было накасіць! А ім хоць бы хны. Нарэшце праблему з шопінгам заўважыў сам начальнік дзяржавы. І ўсяму беларускаму кіраўніцтву адразу стала ясненька як белы дзень, што беларусы нахабна вывозяць з сваёй дарагой радзімы спакушальную кучку грошаў з партрэтамі амерыканскіх прэзідэнтаў на кожнай купюры. Ну што ты будзеш з імі рабіць, з тымі беларусамі?! Як дзеці!

Гэта ж, хіба што вельмі непатрыятычна, вывозіць з Беларусі партрэты амерыканскіх прэзідэнтаў! Тым больш, што яны намаляваныя на грашах! Хоць і не на нашых. А найбольш абурае, што некаторыя несвядомыя грамадзяне нашай краіны лічаць, што яны маюць права распараджацца заробленымі імі грашамі як захочуць! І купляць на іх што захочуць і дзе захочуць! Ну зусім сорам згубілі. Ні халеры не разумеюць.

Колькі разоў ім казалі, што ўсе склады сваім барахлом заваленыя, а яны пруцца па замежнае. Колькі грошыкаў выкінулі на рэкламныя плакаты “Купляй сваё”, а ім чужое падавай. Колькі ідэолагаў нарабілі, па тэлебачанні трызвонілі, у газетах пісалі… Не даходзіць. Хоць ты кол на галаве чашы. Непарадак. Усё з зайздрасцю паглядаюць, што нашае кіраўніцтва замежныя рэчы любіць. Ну дык гэта ж кіраўніцтва! Жыхары неба! Разбірацца ж трэба! Гэта ж слугі народныя! Яны ж пра ўвесь народ думаюць! А не так, як мы, смяротныя, толькі пра сябе.

Таму няма чаго на іх раўняцца. Рылам не выйшлі. У нас жа сацыяльна арыентаваная эканоміка. Ад кожнай сацыяльнай групы па здольнасцях, і кожнай па заслугах. Вось так! Кіраўніцтва заслужыла. Яно ўвесь час кпіць, як у такіх складаных умовах, калі навокал нашай адзінай стабільнай тэрыторыі адны непрыяцелі, чым дзяржаўны бюджэт папоўніць. А то ні еўрапейскія структуры крэдытаў не даюць, ні сябры па адзінай мытнай прасторы падкінуць валюты не спяшаюцца. Як у такіх умовах выжыць?

Ну а зараз наша кіраўніцтва відаць прааналізавала, што там такое беларусы з-за мяжы возяць. Аказваецца шмоткі! А ў нас дабра такога і свайго заваліся! У нас дэмакратыі бракуе, і правоў чалавека. А вось гэтага дэфіцыту, чамусьці, не вязуць з-за мяжы гандляры. Таму іх пакараць трэба. Напачатку ста далярамі. Справядліва?

Вось і атрымліваецца, што пытанне пра плату за выезд узнята своечасова. Бо і сацыяльную справядлівасць пакідаць без увагі таксама ж нельга! Чаму адны грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія хочуць каб у нас было як у той Еўропе, сядзяць па астрогах, і не могуць не тое што ў замежны супермаркет зайсці, але часамі нават маленькую перадачу не ў стане атрымаць?! І іх еўрапейскія і праваабарончыя структуры вымушаныя называюць агульным словам палітвязні. А іншыя іх суайчыннікі, якіх нібыта і беларуская рэчаіснасць задавальняе, чамусьці ў тую Еўропу пруцца па танныя шмоткі і смачную ежу! Несправядліва? Вось наша кіраўніцтва хіба і занепакоілася несправядлівасцю.

І калі грамадзяне самі не хочуць думаць пра справядлівасць, то мудрае кіраўніцтва і тут падумае за іх. І зараз хоць крыху сацыяльная справядлівасць збалансуецца. Калі нехта не можа выехаць, то і іншым не трэба. Ну а з цягам часу справядлівасць збалансуецца на ўсе сто. Як піць даць! Як сто даляраў за праезд забраць!

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на кастрычнік 2013 году

***1 кастрычніка***

*125 гадоў таму (1888) – У Слоніме нарадзіўся Лукаш Дзекуць-Малей, беларускі грамадзкі і рэлігійны дзеяч.*

*110 гадоў таму (1903 – У в. Базары (Смургонскі р-н) нарадзіўся Міхал Ляпеха (памёр у 1992 у Маладэчне, дзе і пахаваны), беларускі краязнавец, захавальнік сядзібы-музею Францішка Багушэвіча ў Кушлянах.*

***2 кастрычніка***

*600 гадоў таму (1413) – Была заключана Гарадзельская унія ВКЛ з Польшчай, якая надала беларуска-летувіскай шляхце палітычныя правы.*




***3 кастрычніка***

*165 гадоў таму (1848) – У мяст. Шарашова (Пружанскі р-н) памёр Міхал Баброўскі, беларускі вучоны-славіст. У 1824-26 працаваў у Жыровічах.*

***5 кастрычніка***

*555 гадоў таму (1458) – Нарадзіўся Сьвяты Казімер, сын вялікага князя ВКЛ Казімера IV Ягелончыка, патрон Гарадзенскага біскупства.*

*250 гадоў таму (1763) – Памёр Аўгуст III, кароль Рэчы Паспалітай вялікі князь ВКЛ у 1733-66.*

*75 гадоў таму (1938) – Пасьля зьбіцьця невядомымі ад інфаркту памёр Ян Цеханоўскі, беларускі педагог, дырэктар Навагрудзкай гімназіі на пач. 1920-ых, пазьней працаваў у Ашмянах.*

***6 кастрычніка***

*105 гадоў таму (1908) – У в. Скорычы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Алесь Мілюць, беларускі паэт.*

***7 кастрычніка***

*75 гадоў таму (1938) – У в. Вострава (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Валянцін Блакіт (сапр. Болтач), беларускі празаік, публіцыст, паэт.*

***11 кастрычніка***

*40 гадоў таму (1973) – У в. Сялец (Смургонскі р-н) нарадзіўся Віктар Абухоўскі, беларускі археолаг.*

***12 кастрычніка***

*615 гадоў таму (1398) – На востраве Салін (на Нёмане) была падпісана мірны дамова пра дапамогу паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам.*

***13 кастрычніка***

*125 гадоў таму (1888) – У засьценку Пунькі (Глыбоцкі р-н) нарадзіўся Язэп Драздовіч, беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу. Працаваў настаўнікам у Наваградку.*

***15 кастрычніка***

*180 гадоў таму (1833) – У Флярэнцыі памёр Міхал Клеафас Агінскі, магнат, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, удзельнік паўстаньня 1794. Жыў у Залесьсі (Смургонскі р-н).*

***17 кастрычніка***

*120 гадоў таму (1893) – У Ваўкавыску нарадзіўся Павал Хоміч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар.*

***19 кастрычніка***

*25 гадоў таму (1988) – У Менску былі ўтвораныя рэспубліканскае грамадзкае гісторыка-асьветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралёг Беларусі" і аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".*

***20 кастрычніка***

*60 гадоў таму (1953) – У Маскве памёр Яўген Хлябцэвіч, беларускі бібліятэказнавец, літаратуразнавец, публіцыст, педагог. Нараджэнец Жыровічаў.*

***21 кастрычніка***

*135 гадоў таму (1878) – У Варшаве памёр Восіп Кавалеўскі, гісторык, філамат, адзін з заснавальнікаў манголазнаўства. Нараджэнец Вялікай Бераставіцы.*

***22 кастрычніка***

*400 гадоў таму (1613) – У выніку пажару згарэла большая частка старажытнага Навагрудку.*

***23 кастрычніка***

*85 гадоў таму (1928) – У в. Хадзявічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Лаўрын Клыбік, дзеяч беларускай эміграцыі (Англія, Бельгія), медык, навуковец-фармацэўт.*

***27 кастрычніка***

*10 гадоў таму (2003) – Памёр Антось Савук, беларускі краязнавец, публіцыст. Жыў і працаваў у Лідзе.*

***29 кастрычніка***

*75 гадоў таму (1938) – У в. Малая Кракотка (Слонімскі р-н) нарадзіўся Янка Саламевіч, беларускі літаратуразнавец, фалькларыст, бібліёграф.*

***30 кастрычніка***

*130 гадоў таму (1883) – У в. Лакцяны (Астравецкі р-н) нарадзіўся Янка Быліна (сапр. Ян Семашкевіч), беларускі каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт.*

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
верасень 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая

